# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 19 (1669) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК 8 МАЯ 1988 г. ЦАНА 20 зл.



Адбудаваны пасля ваенных пажараў беластоцкі „Версаль" — палац Браніцкіх, у якім змяшчаецца сёння Медыцынская акадэмія. Фота У. Петрука.

# РАЗМОВА ПАСЛЯ ПРЭМ'ЕРЫ

**(З МІКАЛАЕМ МАТУКОЎСКІМ, БЕЛАРУСКІМ ЖУРНАЛІСТАМ І ДРАМАТУРГАМ)**

У зацішшы не надта ціхага кабінета „ізвесцінскага" журналіста ў Мінску мы сустрэліся пасля прэм'еры яго апошняй і папулярнай ужо п'есы „Мудрамер", якую 2 лістапада 1987 года паказаў Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ў пастаноўцы заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Валерыя Раеўскага.

**Ада Чачуга:** Коля, ты і ў сваёй журналісцкай творчасці, і ў драматургіі столькі пішаш пра людзей, пра іх радасць і боль, тваё пяро заўсёды навострана на самыя надзённыя, самыя актуальныя справы грамадскага жыцця. Скажы, калі ласка, як табе гэта ўдаецца?

**Мікалай Матукоўскі:** А мне не трэба ездзіць і вывучаць жыццё. Я сяджу ў справах на кожны дзень. Мой „Мудрамер" — гэтаму доказ. Хаця выкрышталізаваўся ён толькі цяпер, то задуманы быў 15 гадоў таму назад. Столькі часу спеў ён у маёй падсвядомасці. А было так. На адным з нейкіх пасяджэнняў, калі рашалі нейкае цалкам простае пытанне, прысутнічаў Ціхан Кісялёў, старшыня Савета Міністраў БССР. Ён слухаў, слухаў усе тыя варыянты, прымеркі для вырашэння зусім нескладанай справы, аб якіх гаварыў адзін з выступаючых, а тады знерваваўся і кажа: „Вунь там сядзіць Матукоўскі і ён напіша пра цябе такую камедыю, што тваім дзецям і ўнукам будзе сорамна!" Такі быў імпульс. Хацелася і мне сказаць сваё слова супраць бюракратызму і закасцянеласці. І я даў гэтаму выраз у сваім „Мудрамеры": справа ж даходзіць там да абсурду, калі замест таго, каб выклікаць пажарнікаў, бо гарыць, вырашана выясніць у вышэйшай інстанцыі, запытацца дазволу, ці варта гасіць пажар.

**А.Ч.:** Твае п'есы не толькі напраўляюць тое, што патрабуе направы, але памагаюць жыць, таму што выклікаюць шчыры смех, а смех жа, як вядома, здароўе. Калісьці давялося мне пісаць пра тваю незабыўную „Амністыю", гэта таксама была моцная рэч. А ўсё ж нялёгкі гэта жанр — сатырычная камедыя...

**М.М.:** Пішучы камедыю „Мудрамер", спачатку я запланаваў галоўных герояў. Былі гэта перш за ўсё міністр узгадненняў, намеснік міністра па зацвярджэннях і намеснік міністра па пярэчаннях. Калі я знайшоў герояў, я прыдумаў прадмет, на якім маглі б сутыкнуцца дурнота і мудрасць, і назваў яго найперш дурамерам, а каб было больш інтэлігентна, я перайначыў яго на мудрамер. А тады ўжо было зусім лёгка дадаць смешную фабулу.

**А. Ч.:** Твой „Мудрамер", асаб-

(Працяг на стар. 3)






Члены савета „Музея баявой славы" школы № 1 гарадскога пасёлка Фаніпаль Мінскай вобласці Дзіма, Лена і другія пад непасрэдным кіраўніцтвам намесніка дырэктара па выхаваўчай рабоце Аляксандра Пінчука больш двух гадоў вялі пошукі аднапалчан загінуўшага лётчыка, нашага земляка, былога настаўніка рускай мовы і літаратуры Томкавіцкай сярэдняй школы Іосіфа Шалаева. Іх старанні закончыліся тым, што юныя следапыты знайшлі адрасы двух аднапалчан па-геройску загінуўшага лётчыка І. Шалаева. Першы — гэта Андрэй Сакалоўскі. Ён лётаў у адным самалёце з Іосіфам Шалаевым. У сучасны перыяд ён пражывае па адрасу: 314032 Украінская ССР, горад Палтава, вуліца Фрунзе 102, кв. 36.

Пачалася ўзмоцненая перапіска юных следапытаў школы № 1 гарадскога пасёлка Фаніпаль з былым лётчыкам А. Сакалоўскім, які ў сваіх лістах падрабязна расказаў аб баявых подзвігах лётчыка-героя І. Шалаева. І пра яго апошні палёт, палёт у бяссмерце.

Маладыя следапыты звярнуліся да мяне як да нештатнага карэспандэнта з просьбай напісаць нарыс аб гераічным подзвігу лётчыка І. Шалаева і надрукаваць яго ў адной з газет. І я з задавальненнем выконваю іх просьбу, тым больш, што я з Іосіфам Шалаевым да вайны быў асабіста знаёмы, сябраваў з ім. Мы з'яўляліся аднасяльчанамі і працавалі настаўнікамі ў Томкавіцкай сярэдняй школе Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці.

Калі 22 чэрвеня 1941 года над нашым мірным небам павіслі грозныя хмары вайны, Іосіф Шалаеў добраахвотна пайшоў абараняць ад ненавісных фашыстаў сваю вялікую радзіму. Ён заканчвае Новасібірскую авіяцыйную школу і становіцца лётчыкам дальнебамбардзіровачнай авіяцыі, хутка яго прызначаюць камандзірам паветранага карабля ІЛ-4.

У лістападзе 1943 года ў сяле Тоцкае Бузулуцкага раёна Куйбышаўскай вобласці пры фарміраванні экіпажаў у запасным авіяцыйным палку штурман Андрэй Сакалоўскі пазнаёміўся з

(Працяг на стар. 6)

# КАНФЕРЭНЦЫЯ БГКТ У ОРЛІ

У Арлянскім аддзеле БГКТ 262 члены, аб'яднаныя ў 12 гуртках. У апошні час прыбыло некалькі дзесяткаў новых членаў, пераважна моладзі. Развіваецца і ўдасканальваецца супрацоўніцтва аддзела з ПАРП, ЗСЛ, ТППР, з маладзёжнымі і грамадскімі арганізацыямі. Актывісты аддзела ўключаюцца ў працу ПРОН, выконваюць адказныя грамадскія заданні.

Аддзел шырока ўключыўся ў пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы як грашовымі ўкладамі, так і экспанатамі матэрыяльнай культуры. Напрыклад, Аляксандр Марціновіч з Кошак прыдбаў ужо 25 штук экспанатаў, ды апрача таго, паспяхова пераконвае людзей у патрэбе фінансавай падтрымкі гэтай будовы.

У школах Арлянскай гміны амаль усе дзеці навучаюцца роднай мове. Вялікая ў гэтым заслуга настаўнікаў, гміннага інспектара асветы і выхавання Анатоля Мартыновіча і асабліва выкладчыкаў беларускай мовы. Ва ўсіх школах існуюць гурткі любіцеляў беларускай мовы. На занятках у гуртках дзеці вывучаюць беларускія песні, вершы, рыхтуюць беларускія п'есы, знаёмяцца з элементамі беларускай гісторыі. Дзеці падрыхтоўваюць школьныя ўрачыстасці з беларускім рэпертуарам.

У Пашкоўшчыне пад мастацкім кіраўніцтвам настаўніка Юркі Жменькі паспяхова працуе вакальна-інструментальны калектыў, які мае ўжо на сваім рахунку многа канцэртаў. Вялікія дасягненні мае таксама харавы калектыў з Орлі, які існуе ад 1949 года.

Арганізаваныя праўленнем аддзела шматлікія мерапрыемствы інтэгруюць БГКТ з усім мясцовым насельніцтвам, умацоўваюць яго нацыянальную свядомасць. У 1985 годзе ва ўсіх школах гурткамі беларускай мовы былі арганізаваны ўрачыстасці з нагоды 60-годдзя Беларускай сялянска-рабочай Грамады. У 1986 годзе шырока адзначалася 80-годдзе беларускай газеты „Наша ніва". У Малінніках быў арганізаваны ў тым жа годзе ўрачысты пленум аддзела БГКТ, з удзелам літаратараў Сакрата Яновіча і Васіля Петручука, з нагоды 30 гадавіны БГКТ і „Нівы", а ў 1987 годзе — беларускі народны фэст, які праходзіў пад лозунгам 70-ай гадавіны Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Аб вышэйназваных дзеяннях аддзела БГКТ гаварыў старшыня праўлення Янка Добаш на справаздачна-выбарнай канферэнцыі, якая адбылася 16 красавіка г.г.

Падчас дыскусіі Ілья Агіевіч, гаворачы аб вялікім укладзе паасобных людзей і ўстаноў у пабудову Беларускага музея, заахвочваў прысутных да далейшай мабілізацыі беларускага асяроддзя да грашовых ахвяраў на гэтую важную будову. Яму давялося ўдзельнічаць у святкаванні Купалля, арганізаванага Гайнаўскім аддзелам БГКТ, адкуль вынес ён незабыўныя ўражанні. Прапанаваў, каб у будучыні такія мерапрыемствы арганізаваў і Арлянскі аддзел.

Анна Шыманская падкрэсліла, што арлянскае насельніцтва дастаткова насычана беларускімі выданнямі — календаром, літаратурнымі творамі і „Нівай" дзякуючы настаўнікам і іх выхаванкам. Звярнула яна таксама ўвагу на неабходнасць памяшкання для захавання экспанатаў Беларускага музея ў Гайнаўцы.

У дыскусіі выступіў член Прэзідыума ГП Міхась Хмялеўскі, станоўча ацэньваючы дзейнасць аддзела.

Анатоль Мартыновіч, які вёў канферэнцыю, дапоўніў сваімі інфармацыямі выступленні дэлегатаў і падсумаваў творчы плён справаздачна-выбарнай канферэнцыі.

Затым дэлегаты выбралі 15-асабовае праўленне і трохасабовую рэвізійную камісію, а таксама дэлегатаў на XI з'езд БГКТ у асобах: Янка Добаш, Анатоль Мартыновіч, Міраслаў Хаманскі, Анна Шыманская і Уладзімір Залеўскі.

Першае пленарнае пасяджэнне праўлення аддзела выбрала яго прэзідыум у складзе: Янка Добаш — старшыня, Анна Шыманская — намеснік старшыні, Яўгенія Тхарэўская — сакратар, Ілья Агіевіч — скарбнік, Аляксандр Шыманскі, Анатоль Мартыновіч і Аляксандр Марціновіч — члены. Рэвізійную камісію ўзначаліла Яўгенія Хмялеўская.

Канферэнцыю закончыла мастацкая частка ў выкананні школьнага вакальна-інструментальнага калектыву з Пашкоўшчыны і хору з Орлі.

(мх)

## ПЕРАД XI З'ЕЗДАМ БГКТ

### АНАТОЛЬ МАРТЫНОВІЧ



**Па прафесіі ён настаўнік, а па прызванню грамадскі дзеяч.**

**Калі ўзначальваў пачатковую школу ў Вілінаве і арганізаваў грамадскія сілы на пабудову новага Дома культуры, адначасова кіраваў там харавым калектывам, а пазней быў старшынёю Сямяціцкага аддзела БГКТ. Былі гэта 60-тыя і пачатак 70-тых гадоў.**

Калі пераехаў у Орлю, таксама нейкі час выконваў функцыю дырэктара школы. Зараз ён гмінны інспектар асветы і выхавання.

Ва ўсіх школах гміны амаль усе дзеці навучаюцца беларускай мове. Анатоль Мартыновіч лічыць, што маральным абавязкам кожнага беларуса з'яўляецца веданне роднай мовы, якая не менш прыгожая ад іншых.

Анатоль Мартыновіч з'яўляецца членам Прэзідыума ГП і з гэтым адказным абавязкам належна спраўляецца. Ён зноў выбраны ў склад прэзідыума Арлянскага аддзела БГКТ. (мх)

### АННА ШЫМАНСКАЯ



Настаўніца беларускай мовы ў пачатковай школе ў Орлі. Яна педагог з вялікім вопытам. На працягу ўжо 20 год навучае беларускай мове, знаёміць сваіх навучэнцаў з беларускай літаратурай, культурай і гісторыяй.

Яе школьнікі заўсёды ўдзельнічаюць у дэкламатарскіх і тэатральных конкурсах, арганізаваных Беларускім таварыствам. Усе дзеці з'яўляюцца падпісчыкамі „Нівы", купляюць кніжныя выданні ГП БГКТ.

Анна Шыманская час ад часу наведвае гурток БГКТ у Шчытах, памагае яму выконваць статутовыя абавязкі.

Ад 20 год з'яўляецца яна членам ЗСЛ і знаходзіцца ў складзе прэзідыума гміннага камітэта.

На справаздачна-выбарнай канферэнцыі аддзела, якая адбылася 16 красавіка, дэлегаты выбралі яе паўторна ў склад прэзідыума праўлення аддзела. (мх)

### ЯНКА ДОБАШ



Паўторна выбраны старшынёю Арлянскага аддзела БГКТ. Працуе ён дырэктарам пачатковай школы ў Пашкоўшчыне. Шмат часу прысвячае развіццю мастацкай самадзейнасці. У школе паспяхова працуе вакальна-інструментальны калектыў, у якім ён сам удзельнічае.

У апошніх гадах школа ў Пашкоўшчыне сталася сапраўдным асяродкам беларускай культуры. Жыхары навакольных вёсак (усе яны беларусы) часта прыходзяць у школу на цікавыя мерапрыемствы: на канцэрты беларускіх калектываў, на вучнёўскія пастаноўкі п'ес, на сустрэчы з цікавымі людзьмі, у тым ліку і з літаратарамі-„белавежцамі".

Усе мерапрыемствы падпарадкаваны адной ідэі — умацоўванню беларускай нацыянальнай свядомасці.

Родам ён з Крывяціч. Выпускнік Беларускага ліцэя ў Бельску. Закончыў беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. Распачаў прафесіянальную працу ў 1980 годзе ў Чыжах у якасці выкладчыка беларускай мовы. У Пашкоўшчыне працуе 7 год і далей навучае беларускай мове. (мх)

## СЯБРЫ „НІВЫ"

На пошце ў Кляшчэлях працуе трох пісьманосцаў. Маюць яны 43 падпіскі на „Ніву", у тым ліку 21 гадавую. Найбольш „Ніў" у Яўгена Гаўрылюка і Вольгі Верамеюк. Ахвотна чытаюць наш беларускі тыднёвік у Дабрывадзе, Сухавольцах, Саках і Залешанах.

Гарадоцкая гміна — адна з большых на Беласточчыне. На пошце працуе шэсць пісьманосцаў. Падпісак на „Ніву" маюць яны адзінаццаць, у тым ліку чатыры гадавыя і адну паўгадовую.

Найбольш (хаця гэта толькі чатыры) падпіскі мае лістанош Сяргей Яроцкі. Дастаўляе ён тыднёвік на роднай мове ў Грыбаўцы, Страшава і Зарэчаны.

(яц)

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

**Галоўная камісія па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы — Інстытут нацыянальнай памяці, Акруговая камісія ў Беластоку, вядзе расследаванне з мэтай высветліць, хто ў перыяд гітлераўскай акупацыі дапамагаў харчамі або аказваў іншую дапамогу савецкім ваеннапалонным, а мо хаваў савецкіх салдат, астаўшыхся тут пасля таго, як у 1941 годзе прайшоў фронт, ці ўцёкшых з палону.**

**Усе інфармацыі просім накіроўваць па адрасу: Галоўная камісія па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы — Інстытут нацыянальнай памяці, Акруговая камісія ў Беластоку: ul. M. C. Skłodowskiej 1 (адрас для карэспандэнцыі); тэл. 273-34, сядзіба на вуліцы Бэма 11.**

## Наша пошта

**Віктар Мартыненка, Мінск.** Калі, як Вы пішаце, з нейкага часу жывеце ад „Нівы“ да „Нівы“, дык павінны былі заўважыць, што амаль у кожным нумары было нешта пра нашы, тутэйшыя харавыя групы, пра песенныя агляды, пра „хрысціны“ мастацкіх калектываў і г.д. Гаварыць пра іх перш за ўсё — гэта наш абавязак. Калі не зробім гэтага мы, то хто зробіць?! Таму менавіта не ішлі Вашы артыкулы пра беларускія рок-групы, а не таму, што новы рэдактар В. Луба не любіць року. Зрэшты, пра вашыя калектывы і без нас ёсць каму пісаць. Аднак жа, пэўна, Вы ўжо заўважылі, што і Вашы артыкулы пайшлі ў рух. На першы агонь мы далі Сяржука і яго песні.

**Марыя Пень, Тафілаўцы:** „Пішуць мне людзі і пытаюцца, чаму ў „Ніве“ забракла рубрыкі „Вер-не-вер...“, у якой Астрон разгадваў сны. Людзей наогул не соннік цікавіць, а што ім сніцца. Мяне — таксама“. Цярплівасці, даражэнькія! Друк „Сонніка“ заканчваем у чэрвені. Тады спрабуем пагаварыць з Астронам. Ён, праўда, надта пастарэў за апошні час, калі не працаваў, ходзіць толькі і крэкча, але, можа, неяк удасца яго намовіць на далейшае супрацоўніцтва. Тады і прысылайце свае сны, хоць бы і сюррэалістычныя.

**Валянціна Трыгубовіч, Мінск:** „Мілыя каляжанкі — супрацоўніцы „Нівы“! Радасна вітаю вас, віншую з Міжнародным жаночым днём і зычу ўсяго самага найлепшага. Вы такія руплівыя і старанныя, чытаю вашу мілую газету з цікавасцю. Пачынаю, натуральна, з „Сардэчных тайнаў“. Якая жанчына не любіць плётак і ўздыхаў? У свята няхай усе кветкі і мужчынскія сэрцы будуць вашы, мае абаяльныя сяброўкі і каляжанкі“.

Дзякуем каляжанцы-журналістцы за яе добрыя зычанні, але ж каму, як не ёй, ведаць, што вельмі цяжка ў нашыя дні ды ў нашай прафесіі застацца жанчынай, да якой будуць належаць усе мужчынскія сэрцы...

**Ігар Вашкевіч, Мінск:** „Віншуем усіх жанчын рэдакцыі са святам 8 сакавіка! Зычым моцнага здароўя, добрага гумору і прыгажосці. Вялікі дзякуй Вам за вашу плённую працу на беларускай ніве. Вашы чытачы — сям'я Вашкевічаў.

Асобнае прывітанне Адзе Чачуга ад партызан атрада маёра Казанцава — камісара Соманава Фёдара Дзмітравіча, Вашкевіча Пятра Антонавіча, Фалея Станіслава Мацвеевіча, Багушэвіча Івана Ігнатавіча, — у якім быў і Ваш бацька разам з невялікімі дзяўчынкамі — Адай, Натай і Вашай маці Раяй“.

Дзякуюць за пажаданні ўсе нашы жанчыны (іх ужо ў нашай невялічкай рэдакцыі — большасць), а я дзякую асабліва. Да сёння ў маёй памяці захаваўся вобраз Анатоля (Фёдара Сомава), па-заліхвацку седзячага на

(Працяг на стар. 5)

## Свойскія малюнкі



*Чэхі Арлянскія. Старая хата з 1920 г. Мал. У. Петрука.*

## Нашы будні акупацыі

У нямецкую акупацыю было дзве ўлады: днём гітлераўская, а ноччу — партызанская. У Рудні было мнагавата дзяўчат. За Рудняй, за возерам на грудку, стаяла шэсць хат. Там партызаны мелі прыпорыска, пазнаёміліся з дзяўчатамі, вечарамі рабілі музыкі. А днём прыходзілі немцы, што стаялі ў Юшкавым Грудзе, і таксама рабілі музыкі ў той жа хаце, і танцавалі-гулялі з тымі ж дзяўчатамі, што і партызаны, і граў ім той самы музыкант з суседняе вёскі, а гармонію прыносіў яму хлопец з другое вёскі. Нямецкія танцы-шманцы канчаліся, калі сонца заходзіла. Той хлопец, што яго была гармоня, заранёў ён забраў яе ад музыканта, хоць немцы тлумачылі яму, каб яшчэ пачакаў, але ён не паслухаў іх, закінуў гармоню за плечы ды пайшоў. Убачыў гэта нямецкі старшы, дагнаў хлопца, узяў яго гармоню ды аб вярбу ёю гакнуў, так ляснуў, што з тае гармоні не было чаго ў мяшок збіраць. Гэта было шчасце ў няшчасці, бо ж мог той нямецкі старшы не толькі разбіць гармоню, але і хлопца застрэліць.

Чалавек дваццаць партызанаў пад камандаю Сцяпанава ў якіх трох кіламетрах ад нашых вёсак выкапалі сабе вялізную зямлянку ў гушчавіне, недалёка ад шашы. Як прыйшлі яны першы раз да нас, то людзі падумалі, што можа быць гэта нейкія гарадскія зладзеі, і таму не хацелі пускаць іх у хаты, а хлеба, якога прасілі яны, не падавалі ім нават цераз вокны. А я, убачыўшы, што гэта не зладзеі, адчыніў дзверы, на стол паставіў паўтарачку самагонкі, жонка



насмажыла закусі і згатавала гарбаты гарачае. Партызаны паелі і выпілі, тады я іх правёў цераз брамку на загуменне, адкуль да лесу было недалёка. Я сказаў ім, каб прыходзілі якраз сюдою, і каб сюдою выходзілі. Так і было.

У Рыбаках былі камсамольцы, якія дапамагалі партызанам: Кастусь Хлябіч, Станіслаў Баршчэўскі, Аляксандр Лаўрашук. У Бандарах жа — Аляксандр Казбярук, Міхал Міруць і іншыя. У Боўтрыках — Лёнік Болтрык. Гэтыя хлопцы знаходзілі патроны, гранаты і падказвалі партызанам, што ў недалёкай Луцэ адзін чалавек знайшоў снайперскую вінтоўку. Ведалі, у каго ёсць батарэйкі для радыёпрыёмніка. Радыёпрыёмнік адрамантавалі хлопцы ў Мікалая Лукшы, што жыў на хутары за Цісоўкаю.

Жылі тады людзі, усё роўна што ходзячы па гнілой кладцы, пра якую невядома, калі і ў якім месцы трэсне яна. Адзін раз у Бандарах, што на ростанях дарог, з'явіліся на музыках партызаны. Ранкам снедалі яны ў Міхася Буры, млынара, аж тут, бачаць, немцы на падворышча ўвальваюцца. Партызаны хаваліся на гарышчы хаты. Міхась, як гэта млынар, давай частаваць і немцаў, ну бо што тут зробіш... Немцы з'яўляліся заўсёды ў тыя дні, калі былі партызаны. Як былі партызаны, то ўдзень прыязджалі немцы, і тады мужчынам даводзілася ўцякаць у поле або ў лес. Неяк, седзячы з партызанамі за сталом, кажу я ім: хлопцы, кепска будзе! Немцы ведаюць, што вы ў нас

(Працяг на стар. 7)

## За пашану да меншасці

(Працяг са стар. 3)

проста Лёнік, паспеў аб'ехаць са сваімі арыгінальнымі карцінамі Еўропу і Амерыку, меціць на Аўстралію, знайшлося яму месца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве. Шмат старэйшы за яго **Ян Анісэровіч** (Яша Бурш) ужо даўно заваяваў агульнае прызнанне сваімі абстрактнымі палотнішчамі. Ён праявіў сябе таксама як таленавіты паэт, які па-сучаснаму, далёка ад вясковай традыцыі, разглядае акружаючае яго асяроддзе. Шкада толькі, што Яша Бурш неяк адлучыўся ад арганізаванага беларускага руху ў Польшчы.

**Юрый Шурбак** — родам з Бельска, мастацкі кіраўнік і дырыжор ансамбля царкоўнай песні, з якім ён аб'ехаў амаль паўсвету.

**Галіна Сланіцкая** — сусветнай славы оперная спявачка родам з Гайнаўкі, якая закончыла Гайнаўскі беларускі ліцэй. Калісьці давялося мне браць у яе інтэрв'ю. Жыла яна тады ў скромнай кватэры на варшаўскім Павіслі, але з любоўю ўспамінала сваё дзяцінства і юнацтва, якое прайшло на ўскраіне Белавежскай пушчы.

**Тамара Саланевіч** — родам з Нараўкі, выдатны рэжысёр-дакументаліст, абсыпаная многімі краёвымі і загранічнымі ўзнагародамі, аўтар больш дзесяці фільмаў, пераважна прысвечаных гісторыі і культурным традыцыям Беласточчыны, у першую чаргу — тутэйшым беларусам. Ада Чачуга цёпла і з любоўю пісала ўжо ў „Ніве“ пра яе, але мне здаецца, што было б і тут дарэчы прыгадаць адзін эпізод з яе фільма „Крэсавая балада“. Вось даваенны паліцай (дзея адбываецца ў 1935 годзе), значыць, прадстаўнік улады, нагаварвае багатага селяніна да супрацоўніцтва: *„То ж усе мы палякі!“* — пераконвае паліцай. *„Так, мы тутэйшыя, беларускі народ“*, — адказвае яму селянін. Я ўпэўнены, што гэты сацыялагічны малюнак і дагэтуль у нічым не затраціў сваёй, — як жа горкай (!) — актуальнасці. Сапраўды, мы тутэйшыя — ад пачатку свету! І мы — беларускі народ!

Ідзем, аднак, далей. Пісьменнікі. Шэсць членаў Саюза польскіх пісьменнікаў! А магло б быць прынамсі ў два разы больш, каб было дзе і каму выдаваць творы празаікаў і паэтаў, якія рашыліся прыгожым, мастацкім словам ўвекавечваць сваю нацыянальную прыналежнасць.

Ежы Тамашэўскі зусім рэальна ўяўляе сабе існаванне ў Беластоку **Беларускага выдавецтва.** Дай Бог, каб збыліся ягоныя пажаданні!

*„Ёсць пісьменнікі і паэты, якія стварылі ўласную літаратурную арганізацыю „Белавежа“...“* — пісаў Е. Тамашэўскі.

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

(Працяг са стар. 5)

PKS Bałystok—Krynki. Dyrekcja Okręgowa KPKS w Białymstoku informuje:

Oddział I KPKS w Białymstoku — obsługujący tę linię — przeprowadził szczegółową analizę regularności kursowania autobusów na w/w trasie za m-c grudzień 1987 r. i styczeń 1988 r., z której wynika, że dziennie trasę Białystok—Krynki obsługuje w obowiązującym rozkładzie jazdy 12 kursów i taką samą ilość kursów z Krynek do Białegostoku. Ponieważ w liście Redakcji mówi się o nieprawidłowościach w obsłudze linii Białystok—Krynki dla przykładu podajemy czas odjazdu z Białegostoku do Krynek w poszczególnych kursach i wykonanie tych kursów w m-cu grudniu ub. roku i styczniu br.

— **Bia 1587** odjazd godz. 6.00, kursuje w dni robocze; w m-cu grudniu i styczniu wykonano wszystkie kursy.
— **Bia 595** odjazd godz. 7.50, kursuje w dni wolne od pracy i świąteczne za wyjątkiem 25.12.87 i 1.01.88; wykonano wszystkie kursy w m-cu grudniu i styczniu.
— **Bia 1573** odjazd godz. 8.00, kursuje w dni robocze i świąteczne za wyjątkiem 25.12.87 i 3.04.88; wykonano wszystkie kursy w m-cu grudniu i styczniu.
— **Bia 1589** odjazd godz. 9.50, kursuje w dni robocze; wykonano wszystkie kursy w m-cu grudniu i styczniu. Jedynie kurs w dniu 21.12.87 odjechał z 30-minutowym i dnia 24.12.87 r. z 20 min. opóźnieniem z powodu awarii technicznej autobusu.
— **Bia 1421** odjazd godz. 10.50, kursuje każdego dnia; wykonano wszystkie kursy w m-cu grudniu i styczniu.
— **Bia 1575** odjazd godz. 14.10, kursuje we wszystkie dni za wyjątkiem 25.12.87 i 3.04.88; wykonano wszystkie kursy w m-cu styczniu i grudniu.
— **Bia 941** odjazd godz. 15.00, kursuje w dni świąteczne za wyjątkiem 25.12.87 i 3.04.88; wykonano wszystkie kursy w obu miesiącach.
— **Bia 1321** odjazd godz. 15.20, kursuje we wszystkie dni — pierwszeństwo przejazdu za biletami miesięcznymi; wykonano wszystkie kursy w m-cu grudniu i styczniu. Kurs ten odjechał z 20 min. opóźnieniem tylko w dniu 16.12.87 r. z powodu awarii technicznej autobusu.
— **Bia 1452** odjazd godz. 16.50, nie kursuje tylko 25.12.87 i 1.01.88 i 3.04.88; wykonano wszystkie kursy w m-cu grudniu i styczniu.
— **Bia 1323** odjazd godz. 18.20, kursuje we wszystkie dni; wykonano wszystkie kursy w m-cu grudniu i styczniu. Opóźnienie 10 min. odjazdu autobusu w tym kursie nastąpiło w dniu 19.12.87 i 1 godz. w dniu 28.01.88 (awaria autobusu).
— **Bia 943** odjazd godz. 18.50, kursuje w dni świąteczne; nie wykonano w dniu 13. i 27.12.87 i 3 i 7.01.88 z braku obsady kierowców.
— **Bia 1465** odjazd godz. 20.20, nie kursuje tylko w dniu 25.12.87 i 3.04.88; wykonano wszystkie kursy w m-cu grudniu i styczniu.

Z powyższego wynika, że poszczególne służby nie lekceważą swoich obowiązków i obsługują tę trasę na miarę możliwości taborowych i obsad kierowców. Lekceważenia obowiązków przy obsłudze tej linii nie stwierdzono. Regularność kursowania autobusów jest wyższa niż na innych liniach.

Dyrektor
**mgr inż. Czesław Sawko**




(Працяг са стар. 5)

і актуальныя беларускія слоўнікі. Найважнейшае — каб моладзь не забывала мову сваіх бацькоў, каб звычайна гаварыла на ёй, а не лічыла за лаціну. Правілы ў данай сітуацыі, памойму, маюць чыста сімвалічнае значэнне.

**Ада Чачуга**

## У НАС, У КЛЯШЧЭЛЯХ

Кляшчэлеўская гміна — тыпова сельскагаспадарчая. Зараз у пятнаццаці салэцкіх вёсках пражывае 4100 чалавек і ў Кляшчэлях — каля 1600. Гміна займае плошчу ў 14300 гектараў, у тым ліку ёсць восем тысяч гектараў зямельных угоддзяў. Не ўсе, на жаль, зямельныя ўгоддзі даюць ураджаі. Каля васьмісот га састаўляе тут дзяржаўны фонд зямлі і ён не змяншаецца. Гэтая справа з'яўляецца найбольшай праблемай для тамашніх гмінных улад.

З гэтай мэтай у мінулым годзе пачалося так званае сцаленне цераспалосіцы. Варта дадаць, што ў 1985 годзе ў гміне стварылі наймалодшы ў Польшчы ПГР.

У Кляшчэлях будуюць Дом культуры з кіназалам, бібліятэкай і кавярняй. Будзе ён гатовы праз тры гады.

У 1989 годзе ў мястэчку над рачулкай Нурэц пачнецца пабудова пачатковай школы. Гмінныя ўлады намераны таксама стварыць асяродак спорту і адпачынку. Зараз рыхтуюць неабходную дакументацыю.

Прадбачваецца, што пасля 1990 года ў мястэчку, што вельмі пажадана, пачнуць расці, як грыбы пасля дажджу, спулдзельчыя жылыя блокі. **(яц)**

## МАЛАДЫЯ, АЛЕ З ВОПЫТАМ

У Чыжоўскай гміне найлепшымі гаспадарамі з'яўляюцца: Мікалай Пракапюк з Вулькі, Мікалай Раманюк з Гукавіч, Мікалай Яканюк з Курашава і Мікалай Кобац з Кленік — усе яны гадуюць перш за ўсё многа малочных і мясных кароў, а таксама Яўген Грыгарук і Канстанцін Заброцкі з Курашава ды Антон Янцэвіч з Лушчоў — яны найлепшыя ў свінагадоўлі. Найбольш авечак гадуе Ян Адамчук з Чыжоў — зараз у яго іх больш двухсот.

Усе гэтыя гаспадары маладыя, але вопытныя. У іх многа ўсялякай сельскагаспадарчай тэхнікі. Усе яны маюць па адным, а некаторыя то нават па два і тры трактары. **(яц)**

## У БЕЛЬСКІМ ПОМе

Бельскі ПОМ даўно закончыў зімовыя рамонты. Распачаліся яны ў кастрычніку мінулага года. Да 20 сакавіка г.г. ПОМ вярнуў тэхнічную спраўнасць 37 збожжаўборачным камбайнам „Бізон", 9 прэс-падбіральнікам, 4 бульбакапалкам і 6 бульбакамбайнам, 4 снопавязалкам, 3 ратацыйным касілкам, 19 гноераскідальнікам і 1947 трактарам.

На працягу года ПОМ у сярэднім ладзіць каля 4 тыс. трактараў, пераважна выконваючы капітальныя рамонты. Менш складаныя рамонты сяляне выконваюць самі, таму што паслугі і запасныя часткі цяпер даволі дарагія.

Бельскі ПОМ выконвае ўсе патрэбныя ў сельскай гаспадарцы паслугі, рамантуе трактарныя прычэпы, робіць рознага роду сталы і столікі, мацаванні батарэй, плітак і іншую мэблю, якую пажадае заказчык. ПОМ займаецца таксама рэгенерацыяй паасобных часцей да сельскагаспадарчых машын, як, напрыклад, падбіральнікі дыскаў, счэпныя і тармазныя дыскі, водныя помпы і іншыя.

— Мы нікому не адмаўляем, прымаем усе работы з дастаўкай дахаты, — гаворыць кіраўнік варштатаў Уладзімір Парфенюк. У варштатах працуе зараз 31 чалавек.

**Міхась Хмялеўскі**

## ЦЁМНА НА ВУЛІЦЫ

Вёска Старое Ляўкова — адна з большых у Нараўчанскай гміне. Мае яна шырокую ды роўную, пакрытую асфальтам вуліцу, а таксама навейшае вулічнае электраасвятленне.

Часта вечарам і ноччу на вуліцы бывае, аднак, цёмна — перагараюць электрычныя лямпачкі. На дарогу выходзіць небяспечна. Ездзяць па ёй веласіпедысты і фурманкі-відмы без якога-колечы фанара. Апрача таго, як вядома, цёмная вуліца заўсёды спрыяе хуліганам. У вёсцы былі таксама дробныя пакражы. **(яц)**

## СПРАВА ВЕТЭРАНА

Хведар Анішчук, жыхар Новага Масева гм. Нараўка, з'яўляецца членам арганізацыі ветэранаў ЗБоВіД. У 1939 годзе быў прызваны на службу ў Польскім Войску. Калі пачалася вайна, служыў у Прымор'і. Вайну сустрэў у Тухольскіх лясах і адступаў да ракі Бзуры, дзе прыняў удзел у вялікай бітве верасня 1939 г. Аказаўся ён трапным стралком. З англійскай супрацьтанкавай вінтоўкі спыніў 12 гітлераўскіх танкаў. „Мала было ў нас такіх карабінаў", — кажа Хведар Анішчук.

Палкоўнік абяцаў Анішчуку ўзнагароду, але на другі дзень акружаная часць трапіла ў нямецкі палон. Ваеннапалонны Анішчук разам з другімі жаўнерамі аказаўся ў нямецкім лагеры за Одрай у ваколіцах горада Нойбрандэнбурга.

Калі ў немцаў не хапала рабочай сілы, ён працаваў у сельскіх гаспадароў-баўэраў аж да вызвалення ў 1945 годзе.

Хведар Анішчук быў сведкам псіхозу, які з'явіўся сярод нямецкага насельніцтва пад уплывам гітлераўскай прапаганды. Перад надыходам Чырвонай Арміі адзін з гаспадароў, на якіх працаваў Анішчук, застрэліўся. Некалькі жанчын-немак у суседняй вёсцы павесілася.

Пасля вайны Анішчук вярнуўся ў сваю родную вёску Масева і працаваў на бацькоўскім кавалку зямлі. Цяпер ён пенсіянер.

З'яўляючыся членам ЗБоВіДу, наш ветэран марыць атрымаць хаця б адну ўзнагароду ветэрана. Нядаўна ён падаў заяву ў Беластоцкую камісію па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў, каб атрымаць адшкадаванне за 5 гадоў працы ў гітлераўскай Германіі.

**Мікалай Варанецкі**







(Працяг са стар. 1)

нашым земляком Іосіфам Шалаевым, пасля чаго яны сталі неразлучнымі сябрамі па зброі і білі нямецкіх фашыстаў, лётаючы ў адным самалёце. У склад экіпажа ўваходзілі яшчэ стралок-радыст Мікалай Дудко і стралок Валянцін Жукаў.

З вясны 1944 года пачалі яны лётаць у глыбокі тыл ворага, там разбівалі чыгуначныя вузлы, ваенныя базы, аэрадромы і іншыя аб'екты. Асобныя экіпажы загінулі, а яны засталіся ў жывых і няшчадна білі фашыстаў, знаходзячыхся ў складзе 10-га гвардзейскага Цяжка-Бамбардзіровачнага авіяцыйнага Сталінградска-Катавіцкага Чырвонасцяжнага палка 13-ай гвардзейскай Цяжка-Бамбардзіровачнай Днепрапятроўска-Будапешцкай ордэна Суворава першай ступені дывізіі Дальняй Авіяцыі.

Гэта адбылося 19 студзеня 1945 года. Экіпаж самалёта пад камандай Іосіфа Шалаева ў складзе штурмана Андрэя Сакалоўскага, стралка-радыста Мікалая Дудко і стралка Валянціна Жукава вылецеў з аэрадрома Смыга, які быў размешчаны ў Заходняй Украіне, для бамбёжкі ваенных аб'ектаў у чэхаславацкім горадзе Мараўскія Астравы. Спачатку палёт праходзіў нармальна, ляцелі над хмарамі на вышыні 7 тысяч метраў. Праз некаторы час штурман Сакалоўскі ўбачыў унізе справа вялікі пажар і далажыў камандзіру самалёта:

— Справа палаючы агнём Кракаў, ляцім строга па маршруту.

І зусім праз кароткі час стралкі заўважылі варожы самалёт. Яны паведамілі камандзіру:

— Ззаду нямецкі самалёт!

Будзем атакаваць, адстрэльвайцеся! — загадаў камандзір і плаўна павёў свой карабель у хмары.

Але тут адбылося непрадбачанае: варожая кулямётная чарга прабарабаніла па паветранаму караблю. Адразу ж па самалётнаму перагаворнаму ўстройству наступіла грабавая цішыня: камандзір маўчыць, стралкі таксама не падаюць голасу. Штурмана Сакалоўскага моцна адкінула: ён упаў плячыма на астралюк, яго прыціснула. Яму ледзь удалося ўстаць на ногі і з цяжкасцю адкрыць зашчолку астралюка. Правым плячом ён выціснуў яго і, як корак з бутэлькі, вылецеў з самалёта. Адчуўшы


**Камандзір экіпажа, лётчык Іосіф Шалаеў.**

 




## ЗАМЕСТ ПЛАКАЦЬ, ТРЭБА РАБІЦЬ!

У „Беларускім календары на 1988 год“ маю ўвагу прыцягнула публікацыя інжынера Барыслава Рудкоўскіна „Тапаграфія дарог, урочышч і гідрафічнай сеткі“. Я лічу яе вельмі каштоўнай.

Рудкоўскін — гэта чалавек дзеяння. Калі беларусы навокал толькі і ўмеюць лямантаваць, што ўсё беларускае гіне-прападае, знікаюць старыя назвы і г.д., дык інж. Б. Рудкоўскін бярэцца за работу. Напачатак складае ён карту ваколля Ляўкоў, Райкаў, Казлоў, Дубяжына. Наносіць на карту ўсе назвы, якія жывуць сярод мясцовага насельніцтва. Гэтая карта змешчана ў „Календары“. Яе публікацыя гарантуе нам, што тутэйшыя даўнія і карэнныя назвы не прападуць прынамсі так доўга, пакуль не рассыплецца недзе ў свеце апошні экземпляр „Беларускага календара на 1988 год“.

Я вельмі заахвочваю інжынера, каб ён рабіў наступныя такія карты. Трэба яму дапамагчы, публікуючы іх у наступных „Календарах“. Або — хаця б у „Ніве“, але ў кніжным выданні, аднак, зручней потым адшукаць такую рэч. Вельмі хацелася б мне, каб інж. Барыслаў Рудкоўскін паспеў зрабіць падобныя тапаграфічныя карты ўсіх куткоў Беластоцкага краю. Першы крок ужо зроблены.

**Пятрусь Байко**

P.S. У адным з нумароў „Нівы“ я прачытаў, што Яраслаў Яновіч зрабіў спісак беластоцкіх мясцовасцей, якім змянілі або перайначылі назвы. Ці нельга было б апублікаваць гэты спісак менавіта ў „Беларускім календары“ або ў „Ніве“? Ён жа можа быць гэтак жа каштоўным, як і карты інж. Барыслава Рудкоўскіна!

**Ад рэдакцыі.** Гэты спісак Яраслава Яновіча ўжо апублікаваны ў „Архіўным сшытку“ (Беласток 1987, стар. 80-84). На жаль, гэтае архіўнае выданне з'явілася на правах рукапісу, г.зн. тыражом да 100 экз., і даступнае яно ва ўнутраным карыстанні. Вядома нам таксама, што бацька Яраслава, Сакрат Яновіч, меў выступленне па гэтай справе васемнаццатага лютага г.г. на пасяджэнні Дарадчага канвента пры Старшыні Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку і, як член Канвента, чакае афіцыйнага кроку кіраўніцтва ваяводства. У тым жа кірунку прыняў пастановы мінулагодні З'езд беларускіх студэнтаў, якія, як мы пісалі, адбыўся ў Бельску. Рэдакцыя вядомага тыднёвіка „Палітыка“ рыхтуе адпаведную публікацыю. Плануюцца і іншыя мерапрыемствы. Карацей кажучы: нарастае ў краіне абурэнне зніштажэннем гэтых беларускіх назваў, якія трэба трактаваць як помнікі наогул культуры, у гэтым выпадку беларускай. Так што, дарагі Пятрусь Байко, не ўсе плачуць і бяздарна праліваюць слёзы, а інжынер Барыслаў Рудкоўскін не самотны ў сваёй шляхетнасці ды патрыятычнасці. Прыемна нам рабіць такі допіс.

**(ся)**



Новае, хаця Старое Ляўкова. Фота Я. Целушэцкага.

свабоднае падзенне, ён вырваў кальцо парашута. Атрымаўся моцны хлапок — парашут раскрыўся. І праз якіх-небудзь 5-7 мінут Андрэй Елісеевіч прызямліўся. Будучы ў свабодным падзенні, ён заўважыў, як паветраны карабель праляцеў чорнай птушкай, перавернуты калёсамі ўверх і імгненна прыбліжаўся да зямлі. Пачуў вельмі моцны выбух — гэта самалёт ударыўся аб зямлю і разбіўся на дробныя часткі. Камандзір карабля Іосіф Шалаеў, радыст Мікалай Дудко і стралок Валянцін Жукаў загінулі смерцю герояў.

Як зараз мяркуе былы штурман Сакалоўскі, адбылося вось што. Калі кулямётная чарга ворага ўдарыла па самалёце, быў забіты або цяжка паранены камандзір Шалаеў (ён вёў самалёт). Магчыма, ён упаў на баранку штурвала, перавярнуў яго сваім целам, і самалёт перавярнуўся калёсамі наверх. А што адбылося з астатнімі членамі экіпажа? Цяжка адказаць: яны былі або забіты кулямётнай чаргою ворага, або, параненыя, не змаглі пакінуць падбіты карабель і ўзарваліся разам з ім на зямлі.

Хутка штурман Сакалоўскі прызямліўся, разгледзеўся, нідзе ні жывой душы. Ён пачаў збіраць свой парашут і хацеў схаваць яго дзе-небудзь у надзейным месцы. І раптам бачыць: да яго набліжаюцца чацвёра. Ён выняў з кабуры свой пісталет, паставіў яго на баявы ўзвод і скамандаваў:

— Не падыходзіць, буду страляць!

Але хтосьці з падыходзячых да яго сказаў:

— Пан, чэкай, не стшэляй, мы поляцы.

Яны падыйшлі зусім блізка да савецкага лётчыка, усе чацвёра прывіталіся з ім, моцна паціскаючы яго руку. Адзін з іх сказаў:

— Нех пан не боісе нас, мы свої.

Андрэй Елісеевіч папрасіў палякаў дапамагчы сабраць парашут. Зараз ужо ўпецярых яны скаталі яго і схавалі ў надзейным месцы. Пасля яны накіраваліся ў зусім блізка размешчаны населены пункт. Гэта была яшчэ занятая фашыстамі вёска Асіратавіцы Дзержанёўскага павета, Вроцлаўскага ваяводства. Зайшлі ў крайнюю хату, дзе пражываў Кароль Валек.

Палякі пераканалі Андрэя Сакалоўскага, што лепш будзе, калі рускі афіцэр пераапранецца ў іх адзенне, а сваю зброю аддасць ім на захаванне. Яны заверылі штурмана Сакалоўскага, што ні ў якім выпадку яго не выдадуць немцам. Андрэй Елісеевіч паверыў палякам і зрабіў так, як яны яму парадзілі.

Рызыкуючы ўласным жыццём, два браты-палякі па прозвішчу Валек (Кароль і Францішак) двое сутак хавалі савецкага лётчыка ад ворага і ад злога вока, а на трэція суткі прыйшлі воіны Чацвёртага Украінскага фронту.

У той жа самы дзень Андрэй Сакалоўскі разам з жыхарамі вёскі Асіратавіцы знайшлі разбіты на дробныя часткі самалёт, сабралі целы па-геройску загінуўшых лётчыкаў Іосіфа Шалаева, Мікалая Дудко і Валянціна Жукава і пахавалі каля крайніх хат вёскі Асіратавіцы. Пры гэтым Андрэй Сакалоўскі пакляўся, што адпомсціць ворагу за смерць сваіх сяброў. І сваё слова штурман Сакалоўскі стрымаў: ён прадаўжаў ваяваць у складзе другога экіпажа і дабіваў фашыстаў у іх уласнай бярлозе. Свой апошні баявы вылет ён здзейсніў 6 мая 1945 года.

**Уладзімір Марозаў**

## НАШЫ БУДНІ АКУПАЦЫІ



(Працяг са стар. 4)

бываеце, але ад нашай вёскі яны, немцы, не мелі яшчэ „мальдунку“ пра вас. Давайце я „замальдую“, каб немцы не думалі, што вы тут у нас днюеце ды начуеце... Так будзе лепей. Хоць вас будзе многа, але я скажу немцам, што было вас мала... Каб не ўзмацнялі сваіх пастарункаў яны. Я ашчэ скажу немцам, што адыйшлі вы ў зусім іншым напрамку.

Партызаны згадзіліся са мною. Але не вельмі прыемна было мне ісці ў нямецкую жандармерыю з такою справаю, бо ж ніхто не павінен быў ведаць, што гэтак я дамовіўся з партызанамі. Прытым партызанаў тых было некалькі груп, з усімі я не дамаўляўся.

Неяк добра ўсенька выйшла.

Аднойчы іду я гэта вечарам, а адзін мужчына кажа мне: у лазні гоняць самагонку, ідзем туды. Хата стаяла далёка ад дарогі, а лазня яшчэ далей, у зарасніках, ну, мы і пайшлі на тую самагонку. Каштуючы яе, праседзелі да поўначы. У гэту ноч у Сушчы немцы напалі на партызанаў і спалілі хату, у якую яны былі пахаваліся. Трох партызанаў у белым адзенні і ў белых башлыках чорным канём прыехалі з тае Сушчы да нас на падворак і, паставіўшы каня пад ліпаю, прыйшлі ў нашу хату ды запыталі: „Где хозяин?“. Сказалі: „Он нам нужен“. Жонка мая абегла ўсе хаты і знайшла мяне ў лазні. З плачам сказала: „Ужо другая ночы, пра цябе пытаюць партызаны, а можа і немцы...“ Я быў падпіты, іду дахаты і бачу трох у белым і белым падпярэзаных. Яны адразу запыталі: „Имеешь что-нибудь?“ Я падумаў — і адразу паўтарачку на стол! А яны: „Не имеешь оливы и вазелина для смазки оружия?“ Я меў, бо ў мяне быў матор, малацілка. Я сказаў ім: „Пашукаю, поищу“. А яны: „Не надо, скажи — оно у тебя за сараем в погребку...“ Ну, даў я ім, чаго хацелі. Тады яны пайшлі да Кастусіка Хлябіча; даў ім хіба пішучую машынку. А цераз некаторы час партызаны закалолі на нейкім хутары парсюка ды павезлі яго ў лес за Залешанамі, пад Ялоўку. Калі везлі таго парсюка, кроў з яго капала на снег. Гэтым следам немцы дайшлі да партызанскае зямлянкі, была страляніна, і аднаго параненага партызана ўзялі ў палон, не даў рады ўцячы. Гэта быў той Федзька, пра якога пісаў Алесь Баршчэўскі ў „Ніве“ ад дваццаць восьмага лютага. Алесю тады магло быць гадкоў якіх дванаццаць, але апісаў усё, як было.

(Працяг будзе)

**Хведар Хлябіч**



 

## МОЛАДА, СУЧАСНА, ПА-БЕЛАРУСКУ



### ПЕСНЯ ПРА ГРУНВАЛЬД

**Словы і музыка С.Сокалава-Воюша**

*Навостраны халодныя клінкі*
*Яшчэ ад прамінулае начы.*
*Пагрозліва чакаюць крыжакі,*
*Пакуль аголім мы свае мячы.*

*Рэфрэн:*
*Ну, што ж, нясі мяне уперад, верны конь,*
*Мой верны конь, мой верны конь.*
*Няхай крывёй гарачаю заліта скронь,*
*Нясі, мой конь, цераз агонь.*

*Не трэба азірацца на скаку*
*На тое, каб не плесціся ў хвасце!*
*І меч табе укладзены ў руку,*
*Вярнуцца са шчытом ці на шчыце.*

*Рэфрэн: Таму нясі мяне ўперад... і г.д.*

*Звіняць мячы, барвеюць мурагі*
*І крумкаюць спалохана крукі.*
*Харугвы гінуць, падаюць сцягі,*
*Ды мужна б'юцца з намі крыжакі.*

*Рэфрэн: Але нясі мяне уперад... і г.д.*

*Яшчэ крыху, яшчэ адзін кідок*
*І... кола атачэння, як пятля.*
*Няхай яны крычаць, што з імі Бог,*
*А з намі — Беларуская зямля.*

*Рэфрэн: І зноў нясі мяне уперад... і г.д.*




### СЕЛЯДЗЕЦ, СМАЖАНЫ Ў СМЯТАНЕ

На 2 салоныя селядцы трэба ўзяць паўлітра смятаны, цыбулю, укроп або перац.

1. Селядцы добра вымачыць, ababраць, выняць костачкі, парэзаць на кавалкі. На патэльню наліць смятаны, палажыць у яе селядцы і смажыць на малым агні 3-5 мінут (смятана стане жоўтай і густой). Страву пасыпаць дробна пасечаным укропам і падаваць.

2. Селядцы падрыхтаваць, як вышэй. Філе селядцоў смажыць у смятане. Пасыпаць меленым перцам і свежа пасечанай цыбуляй.

3. Селядцы падрыхтаваць, як раней, і смажыць у смятане. Пасечаную цыбулю падсмажыць на масле. Селядцы ў смятане вылажыць на талерку і паліць падсмажанай цыбуляй.

### ПРАКАНДАС (ЖМУДСКАЯ СТРАВА)

На 2 селядцы трэба ўзяць паўкілаграма цяляціны, 5 бульбін сярэдняй велічыні, 1 цыбулю, 3 яйкі, паўшклянкі смятаны, 15 дэкаў масла, цертую булку, перац, соль.

Селядцы вымачыць, абабраць, выняць костачкі. Печаную ці вараную цяляціну прапусціць праз мясарубку разам з селядцамі і варанай бульбай. Дадаць у гэту масу перац, падсмажаную на масле цыбулю, яйкі, цертую булку, масла, уліць смятану і ўсё добра перамяшаць, дадаючы па смаку солі. Падрыхтаваную масу палажыць у форму, змазаную маслам і пасыпаную цертай булкай, зверху змазаць маслам, пасыпаць цертай булкай (або заліць разбоўтаным яйкам). Пячы ў не надта гарачай духоўцы мінут 40. Падаваць пракандас гарачым, з гародніннай салатай.

### БУЛЬБЯНАЯ ЗАПЯКАНКА З СЕЛЯДЦОМ

На 2 салоныя селядцы трэба ўзяць 10 бульбін, 10 дэкаў масла, 1 шклянку смятаны, 1 цыбулю, перац, соль па смаку.

Добра вымачаныя селядцы абабраць са скуркі, выняць з іх костачкі, спаласнуць і парэзаць на малыя кавалачкі. Памытую, абабраную і спаласнутую бульбу парэзаць на тонкія скрылёчкі. Жароўню змазаць маслам і палажыць у яе пластамі: бульбу, на яе селядцы, пасля — ізноў бульбу і г.д. Наверсе паліць растопленым маслам і смятанай, пасыпаць перцам і дробна пасечанай цыбуляй, пасаліць. Пячы ў не вельмі гарачай духоўцы каля паўгадзіны. Гэту запяканку падаюць гарачай, а да яе — кіслае малако.

**Гаспадыня**




Дарагое Сэрцайка, мне 34 гады і момантамі я адчуваю ўжо сябе старым кавалерам. Але ж я фактычна маю жонку, ды толькі не маю з ёй шлюбу. А было так. Калі ад маёй каханай адышоў муж, я перайшоў жыць да яе (мы ўжо былі знаёмы раней і сустракаліся, найчасцей — калі яе муж быў у камандзіроўцы). Аднак жа не я быў прычынай таго, што распалася яе сям'я, а маладзенькая дзяўчына, з якой пазнаёміўся яе муж у адной з такіх камандзіровак. За тыя 6 год, калі ён адышоў ад жонкі, паспела ў яго ўжо нарадзіцца двое дзяцей, а тут пакінуў дачушку, якой ужо, слава Богу, дзесяць гадоў.

Наша супольнае жыццё з Мірай (так завецца жанчына, з якой я жыву), складвалася някепска, калі не гаварыць пра дробныя скандалы, якія вынікалі, паводле яе, з майго зацікаўлення іншымі дзяўчатамі. Але мне было ў гэтай хаце добра. Заўсёды было наварана і насмажана, заўсёды ў хаце пахла пірагом. Яе дачушка мне не перашкаджала. Была ў адносінах да мяне вельмі мілая, але што ж: у яе быў бацька! Так, як было, магло працягвацца ў бясконцасць, калі б Мірка не прыперла мяне да сцяны. Кажа, што фактычна ўжо пара, каб нашае жыццё стала больш легальным, значыцца, што трэба ўзяць шлюб. А я ўжо і сам не ведаю цяпер, што рабіць. Калісьці мне ўсё здавалася, што няма чаго спяшацца, што на шлюб з ёю я заўсёды маю час. Але ці варта было яго браць, усё думаў я, што мо хто трапіцца яшчэ лепшы, маладзейшы, мо сустрэне мяне яшчэ большае каханне. А тут было цёпла, утульна — дык так усё і цягнулася. Але цяпер я стаў думаць: калі мы не пажаніліся тады, калі маё каханне яшчэ было моцнае і свежае, дык чаго мне лезці ў пастку цяпер? Усё ж-такі гэта не маё дзіця, а супольныя дзеці нас не яднаюць. Можа, яшчэ трапіцца хто маладзейшы, з кім змагу заснаваць маладую, здаровую сям'ю і буду мець толькі сваіх дзяцей... Навошта мне ўлазіць у гэты керат?! І цяпер вось хаджу і не магу знайсці сабе спакою. Што рабіць? Мая Міра такая становучая, што калі я не згаджуся на шлюб, то яна проста выганіць мяне з хаты, а я ж нават не маю куды падзецца.

**Сяргей**

Сяргей! Дык што ты ўрэшце кахаў: цёплую і ўтульную хату з запахам свежага пірага, ці жанчыну, якая, можа, праз цябе занядбала свайго мужа і выпусціла яго са сваіх рук?.. Бо гледзячы на ўсё гэта, здаецца мне, што найбольш прыцягвала цябе не каханне, а выгада. Разглядаўся ж вось ты за іншымі дзяўчатамі. Ды і, калі не жаніўся адразу, то, значыцца, не лічыў гэты раман як нешта сур'ёзнае і на ўсё жыццё. А жанчына ж гэта аддала табе ўсё: і каханне, і сям'ю. Такіх хітруноў, як ты, на свеце ходзіць нямала. Але і не аднаго разумніка давяла такая сітуацыя да старакавалерства. Яны таксама жаніцьбу адкладалі ўсё да лепшага часу, калі трапіцца нешта больш вартаснае, а пакуль што знаходзілі прыстанішча ў нейкай жанчыны, найлепш разведзенай і з дзіцём (тады супольнага дзіцяці дамагацца не будзе!), якая ім варыла і мыла, даглядала і галубіла, а пасля за ўсю сваю дабрату і адданасць заставалася на лёдзе. Вельмі добра здарыцца, калі твая Мірка выганіць цябе са сваёй хаты. Шкада яе для цябе. А ты будзеш свабодны і не ўлезеш у гэты „керат".

**Сэрцайка**




**122**

**Чхаць** — доўгае жыццё.
**Чэрві** — фальшывыя прыяцелі.

**Ш**

**Шабля** — адвага ў сур'ёзных абставінах; сячы ёю — праб'еш сабе дарогу ў жыцці; вострая — твае намеры здзейсняцца; тупая — надарэмныя намаганні; паламаная — цябе перамогуць.
**Шавец** — з цяжкасцямі прабівацца праз жыццё.
**Шакалад** — хвароба знаёмых; есці — дабрабыт і здароўе.
**Шаленства** — няшчасце або шчаслівы паварот у інтарэсах.
**Шалёны** — фальшывыя звесткі.
**Шампанскае** (віно) — няспыннае шчасце.
**Шампіньёны** (пячаркі) — адзначэнне.
**Шанец** — няпэўнасць.
**Шапка** — паслухаюць твайго слова.
**Шараваць** — парадкі ў хаце.
**Шарлатан** — дурнота пашкодзіць табе.
**Шафа** — прыемнае сямейнае жыццё; купляць — дабрабыт; хаваць у ёй што-небудзь — абмяжуй свае выдаткі.
**Шахматы** — добрыя намеры; выйграць у іх — лёгка давесці што-небудзь да выніку; прайграць — непрыемнасці; вучыцца — непатрэбныя старанні.
**Шахта** (капальня) — дабіцца свайго.
**Шаша** — вялікі заробак.
**Шашкі**, гуляць у іх — сварка з прыяцелем; выйграць — удачы; прайграць — перашкоды і турботы.
**Швагер** — важныя сямейныя справы.
**Швейцарац** — здароўе.
**Шкадаваць** — вясёлая звестка.
**Шкарлятына** — пераадоленне перашкод.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### НА ЎРОКУ Ў ТРЭЦІМ КЛАСЕ

У адзін з прыгожых сонечных дзён у красавіку „Зорка" трапіла ў школу № 3 ў Гайнаўцы, што на Юдзянцы.

Аказваецца, у гэтай школе шмат дзяцей вывучае беларускую мову. І ў розных класах. Магчыма, што і ўсе дзеці хадзілі б на ўрокі беларускай мовы, але некаторыя бацькі надта ж баяцца, каб іх дачушкі ці сыночкі хоць не замучыліся той навукай. А дзеці вельмі ахвотна вывучаюць беларускую мову, спяваюць песні, ведаюць шмат вершаў і вельмі любяць сваіх настаўнікаў.

Мне давялося пабываць на ўроку ў трэцім класе.

Дзяўчаткі, а іх на ўроку было восем, прывіталі адразу „Зорку" беларускімі песнямі. Яны яшчэ першы год вывучаюць беларускую мову, на партах іх ляжалі раскрытыя буквары і першыя чытанкі, але яны ўжо вельмі згодна і дружна заспявалі спачатку „Беларусаччу", затым „Люблю наш край" і „Шуміце бярозы". Потым на перабой расказвалі кароткія вершыкі. Агнешка Прыбылоўская — пра „Крыўду алоўка", Бэатка Іванюк — „Хай красуе мір на свеце", Аня Сахарчук — „Села кошка на парожку". Цяпер дзяўчаткі развучваюць шмат новых песень, ды любяць і песні для дарослых, як „Цячэ вада ў ярок", „Купалінку" і шмат іншых.

Хоць яны першы год вучацца беларускай мове, але абяцалі, што адважацца і напішуць супольнае пісьмо да „Зоркі", каб расказаць пра сваё школьнае жыццё.

Пішыце. І не саромцеся. „Зорка" чакае.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**


*Дзяўчаткі з трэцяга класа школы на Юдзянцы ў Гайнаўцы са сваёй настаўніцай Вольгай Сянкевіч.*


*Група вучняў старэйшых класаў (7-8), якія вывучаюць беларускую мову.*

Якуб Колас

### О, КРАЙ РОДНЫ, КРАЙ ПРЫГОЖЫ!..

(Урывак з паэмы „Сымон-музыка")

О, край родны, край прыгожы!
Мілы кут маіх дзядоў!
Што мілей у свеце божым
Гэтых светлых берагоў,
Дзе бруяцца срэбрам рэчкі,
Дзе бары-лясы гудуць,
Дзе мядамі пахнуць грэчкі,
Ніва гутаркі вядуць;
Гэтых гмахаў безгранічных
Балатоў тваіх, азёр,
Дзе пад гоман хваль крынічных
Думкі думае прастор;
Дзе увосень плачуць лозы,
Дзе вясной лугі цвітуць,
Дзе шляхом старым бярозы
Адзначаюць гожа пуць?

Пятро Прыходзька

### ЮНЫМ СЯБРАМ

Ва ўсіх у нас,
Старых і маладых,
Ёсць самы шчасны дзень —
Дзень нараджэння.
Рабіце ж так
З юнацкіх дзён сваіх,
Усё жыццё каб стала вам
натхненнем.
Вучыцеся і жыць
і працаваць,
Любіць свой край,
Яго красу — прыроду,
Яму з маленства
сэрцы аддаваць,
Яго любоў лічыць
за ўзнагароду.
Бярыце прыклад са сваіх
бацькоў
Што здабывалі ў бітвах
перамогу.
Не забывайце родны шум бароў
І сцежкі
да бацькоўскага парогу.
Калі зіма разгорне
свой сувой
Ці росы ў лузе
зноў засерабрацца, —
Дзяліце радасць,
сонечны настрой
У дружбе шчырай,
у любві і працы.
Дзе б ты ні жыў —
У горадзе, ў сяле, —
Зямлі бацькоўскай
Адчувай дыханне,
Гуляй па ёй.
Хадзі па ёй, але
Былінкі не аддай
На паказанне

У вас ва ўсіх
І гарт,
І спрытнасць ёсць,
З'яднаныя вы
Не адзіным хлебам.
...Дык хай квітнее ваша
Маладосць,
Як сіняя вясна
Над мірным небам!

## ВАСІЛЬ ХОМЧАНКА
# АПАВЯДАННІ ПРА СЯРГЕЙКУ

### ПАМОЧНІК

Захацелася Сяргейку памагчы дзеду замесці кватэру. Узяў венік і — шась-шась ім па падлозе. А падлога чыстая, няма смецця. Так нецікава венікам махаць.

Сяргейка парваў на шматкі газету і сыпануў на падлогу. Выняў з шафы ключ і таксама кінуў на падлогу.

Цяпер было што падмятаць. Шась-шась і цэлая куча смецця пад венікам.

Змёў Сяргейка ўсё на сярэдзіну пакоя і пачаў думаць, куды ж дзець смецце. Каля адной сцяны канапа стаіць, каля другой — шафа.

Размахнуўся Сяргейка венікам раз, другі, і... смецце палящела пад шафу.

— Усё, — сказаў задаволены сваёй работай Сяргейка і паставіў венік у кут.

Паклікаў дзеда з кухні.

— Зірні, чыста, — пахваліўся ён.

— Малайчына. А дзе ж смецце? — спытаў дзед.

— Там усё, — паказаў Сяргейка пад шафу, — і ключ, і твае акуляры.

— Ну і памочнік, — пакруціў галавою дзед і, сагнуўшыся, палез даставаць свае рэчы з-пад шафы.

### АЎТАМАБІЛЬ

На дзіцячай пляцоўцы ўсе дзеці коўзаліся з горкі стоячы. Падымуцца з аднаго боку па прыступках, а з другога па схіле ўніз — ш-шух! А Сяргейка парашыў праехацца на каленях. І падраў штаны.

Прыйшоў дадому, рукамі дзіркі закрыў, ніхто і не ўбачыў, што штаны падраныя. Зняў і схаваў за канапу.

Прыйшла да яго Аленка гуляць і пытае:

— Ты чаму без штаноў ходзіш?

— А я індзеец, — адказаў Сяргейка.

Аленка зірнула за канапу і дастала адтуль штаны.

— Вось які ты індзеец! — прасунула яна ў дзіркі пальцы.

Тут жа ўзяла іголку, ніткі і прышыла латкі на кожную штаніну. Праўда, латкі былі белыя, штаны — сінія, а ніткі — чорныя.

Сяргейка надзеў штаны і аж заскакаў ад радасці.

— Дзве фары, — паказаў ёй на латкі. — Я аўтамабіль. Бі-і!

Выбег на двор і, каб усе бачылі, закрычаў:

(Працяг на стар. 10)




З суседскага агародчыка

## НЕ ПІ, ВАСЯ!

Неяк прачнуўся Васіль раніцай, галава аж трашчыць, так баліць. У роце ўсё перасохла. Хоць бы глыток якой вады. Стаў падымацца, глянуў на столь, а там напісана: „Не пі, Вася!"

— Ты што гэта? — накінуўся на жонку. — Навошта столь сапсавала?

— Ты чытай ды думай! — адказала жонка.

— А! — махнуў рукою Васіль і пашкроб патыліцу.

На заводзе да яго падышоў майстар, даў заданне, а потым ціха дадаў:

— Не пі, Вася!

— Што?! — У Васіля вочы на лоб палезлі.

Стаў Васіль уключаць станок, а на ім аркуш паперы ляжыць. На паперы напісана: „Не пі, Вася!".

Пайшоў Васіль на абед у сталовую, а там плакат на ўсю сцяну: „Вася, не пі!" Сеў за стол, кавалак у горла не лезе, а тут яшчэ па радыё аб'яўляюць: „Па шматлікіх заяўках жанчын з жансаветаў і ад нефармальнай жаночай арганізацыі „Не пі, Вася!" перадаём песню групы „Анты-Бахус" „Я кінуў піць!"

Кінуў Васіль лыжку і выскачыў са сталовай. Сяк-так дабыў да канца змены, пайшоў дадому, па дарозе надумаўся півам збіць хваляванне, а на дзвярах бара нехта напісаў чырвонай фарбай: „Не пі, Вася!" Кінуўся Васіль у тралейбус, паехаў дадому. Дома ўключыў тэлевізар, а там, пасяджэнне жаночага савета ідзе, абмяркоўваецца пытанне аб барацьбе за цвярозасць. Слова бярэ жонка Васіля і гаворыць з экрана:

— Бачыш, Вася, колькі нас тут? І ўсе мы жадаем, каб ты не піў! Не пі, Вася!..

Яшчэ цэлы тыдзень змагаўся Васіль, а потым не вытрымаў, сказаў жонцы:

— Добра, ваша ўзяла! Кідаю піць!

— Васечка, родненькі ты мой, я так рада за цябе! — узрадавалася жонка і пацалавала мужа.

Праз тыдзень на чарговым пасяджэнні жансавета распрацоўваўся план мерапрыемстваў пад кодавай назвай „Не пі, Мікола!"

**Алесь Шаўцоў**



## НЕ МОЖА БЫЦЬ

Чалавек, п'ючы квас, заўважае:

— Крыху цеплаваты.

Прадаўшчыца:— Не можа быць, бо я толькі што ўліла два вядры халоднай вады.

## СУР'ЁЗНАЯ ПРЫЧЫНА

— І чаму гэта ў цябе зноў новая сакратарка? — злосна спытала жонка свайго мужа-дырэктара, завітаўшы да яго на работу. — Ужо чацвертая толькі за паўгода!

— Ды справа ў тым, мілая мая, што ніяк не магу знайсці сабе такую, якая б на наступны дзень не вызначала мне сустрэчы. Ім і на думку не прыдзе, што я свайго часу ўжо згадзіўся на сустрэчу і паплаціўся за гэта свабодай.

## ЭФЕКТ

Доктар звяртаецца да пацыенткі:

— Ад вашай бяссонніцы не застанецца і следу. Вось вам лякарства. Калі вып'еце адну пілюлю, то будзеце спаць, хоць кідай вас у ваду.

— Што вы, пане доктар! Я не ўмею плаваць!..

Дэвіз ананімшчыка: „Я пішу — значыць, я існую".

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Адзін кнігалюб пытае другога:

— Вы мне скажыце, чым гэта растлумачыць, што цяпер так мала ў літаратуры вялікіх пісьменнікаў?

— А чаму гэта вы так скептычна на нашу літаратурную дзейнасць глядзіце?

— Можа, я сапраўды скептык. Але чытаў бадай усе літаратурныя навінкі, а вось новага Шаўчэнкі, Франко, Мірнага, Кацюбінскага ці Стафаніка, ей-Богу, не бачу.

— Вы моцна памыляецеся. Пахадзіце на юбілейныя вечары нашых сучасных літаратараў ды паслухайце ўважліва юбілейныя выступленні, дык ад вашага скепсісу толькі дым пойдзе.

*

Падарожнік, забраўшыся ў далёкі раён Паўночнай Ірландыі, звяртаецца да фермера з просьбай расказаць аб мясцовых славутых памятках.

— Вось Чортава гара, — гаворыць фермер. — За ёй ляжыць Чортава даліна, а на тым беразе ракі пачынаецца Чортаў лес.

— Падобна на тое, што тут чорт валодае вялікімі зямельнымі ўчасткамі, — усміхаецца падарожнік.

— Ага, — гаворыць фермер. — А жыве ён, як усе землеўладальнікі, у Лондане.

З „Весніка Задрыпоніі"

## ПАВЕРХІ НОВАБУДОЎЛЯЎ

Берučы пад увагу тое, што першыя і апошнія паверхі жыллёвых дамоў не карыстаюцца попытам, будаўнічыя арганізацыі прыступілі да ўзвядзення будынкаў без указаных паверхаў.

## НОВЫ ВІД

Група энтузіястаў барацьбы з курэннем звярнулася ў алімпійскі камітэт з прапановай уключыць барацьбу з курэннем у алімпійскую праграму.





## ПАВІНЕН ВЕДАЦЬ УСЁ

— Мой сябра Колька ведае ўсё-ўсё, — кажа пяцігадовы хлопчык.

— Як гэта?

— Дык ён жа ўжо вучыцца ў першым класе.






Толькі адна фігура не паўтараецца ў гэтым комплексе. Ці патрапіце знайсці яе на працягу пяці мінут?

Адказ: 3 фігура ў трэцім радзе.




## ЦЫТАТА

У вайсковай газеце аднаму супрацоўніку было даручана „арганізаваць" артыкул буйнага вайсковага начальніка, мабыць, нават маршала. Супрацоўнік не ведаў, з якога канца да гэтай справы падыйсці. Сябры яму параілі: „Ты што, не ведаеш, як гэта робіцца? Будзе табе маршал сам пісаць артыкул? Ты яго напішы і дай яму. Скажы, што гэта, вядома, „балванка", матэрыял, але каб аблегчыць работу... і г.д. Ён папраўіць у тваім артыкуле два словы (а можа, і іх не будзе папраўляць), падпіша яго, а падпісаць яму надоўга. Заўсёды так робіцца, ці ж ты не ведаў?"

Усё так і атрымалася. Прайшоў час. Аднойчы супрацоўнік быў дзяжурным па нумару газеты і чытаў чарговы артыкул, у якім цытавалі той самы артыкул маршала, а фактычна яго самога. Цытата выдалася яму крыху шурпатай стылістычна. Ён яшчэ падумаў: „Што я тады — п'яны, ці што, быў, што напісаў так шурпата?" Надоўга думаючы ён папраўіў цытату і зрабіў яе больш пісьменнай.

Раптам яго выклікаюць „наверх", „на дыван".

— Вы дзяжурылі па нумару?

— Я.

— Вы перакруцілі цытату маршала?

— Ды я... ды бачыце...

— Вы перакруцілі цытату маршала! Будзеце адказваць за гэта па ўсёй строгасці...

*У. Салаухін*




**Хто надта цяжка паракае на свой цяжкі крыж, той не хоча развітацца з ім.**